# Ніва

ШТОТЫДНЁВІК

ГОД I № 36 БЕЛАСТОК, 4 ЛІСТАПАДА 1956 г. Цана 60 гр.


7. XI. 1917 — 7. XI. 1956

НЯХАЙ ЖЫВЕ 39 ГАДАВІНА ВЯЛІКАЙ КАСТРЫЧНІЦКАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭВОЛЮЦЫІ

## ЧАМУ Я ТАК ПІШУ...

Кажуць, што я большасць сваіх артыкулаў прысвячаю справам школ. Нават некаторыя з маіх блізкіх сяброў падкрэсліваюць гэта і адначасова падказваюць, што можна знайсці і іншыя тэмы — з галіны культуры.

Аб усім гэтым я ведаю. Ведаю, што закранаю пераважна асветную тэматыку, ведаю, што ёсць шмат іншых праблем, цесна звязаных з беларусамі, якія ўсё чакаюць на вырашэнне.

Зрэшты нельга гэтага не ведаць, калі сам нарадзіўся пад абвісшай страхой беларускай сялянскай хаты, калі дарагі табе твой народ, любіш яго, любіш яго мову, культуру, гісторыю.

Нельга гэтага не ведаць, калі так хочацца, каб урэшце беларусы чуліся беларусамі.

Чаму-ж тады найчасцей, выплывае ў мяне пытанне асветы?

Нашы беларускія школы — гэта падстава нашай працы, нашай дзейнасці. Нашы вынікі ў значнай меры залежаць ад таго, як будзе развівацца беларуская асвета.

Як-жа шмат людзей кажа: «цяжка мне чытаць па-беларуску, бо я ніколі не вучыўся ў беларускай школе, бо не было іх». Як-жа шмат людзей хацела-б чытаць беларускія кніжкі, але яны ледзьве могуць па-складам прачытаць слова. І яны чытаюць, але прыходзіцца ім гэта вельмі цяжка. Не было ніякіх магчымасцей навучыцца па-беларуску — кажуць яны.

Шмат лістаў прыходзіць у рэдакцыю, у якіх людзі пішуць: *«хацеў-бы я чытаць беларускія кніжкі, але вельмі слаба валодаю беларускай мовай, парадзьце мне, як утрымаць які-небудзь падручнік па вывучэнню беларускай мовы»,*

*«падабаецца мне беларуская мова, — прышліце мне граматыку, каб я мог навучыцца правідлова гаварыць, чытаць і пісаць па-беларуску».*

Або проста: *«я вельмі хацеў-бы навучыцца беларускай мовы — прашу паведаміць мяне, дзе магу набыць беларускую граматыку».*

І шмат іншых падобных прыкладаў.

Вось і мой адказ, чаму я многа пішу аб гэтым.

Праблемы беларускай асветы ў нас патрабуюць шмат увагі да сябе. Хочучы ліквідаваць нацыянальную глухамань сярод беларусаў, трэба развіваць беларускую асвету. трэба, каб маладое пакаленне не сказала, што не было магчымасці вучыцца роднай мовы.

Мне справа беларускай асветы моцна ляжыць на сэрцы, бо я ведаю, што з беларускіх школ выйдуць людзі, якім будзе вядомы: Багушэвіч, Цётка, Купала, Колас, Багдановіч, Каліноўскі, бо ім будзе вядома, што беларускі народ мае 1.000-гадовую гісторыю і яны будуць даражыць гэтым.

Багата падзеямі гісторыя аб беларускім народзе. І цікавейшая і даражэйшая яна з'яўляецца тым больш, што гэта, так сказаць, «народная гісторыя». Гэта гісторыя простых людзей, працоўных людзей, на барацьбу якіх натхняла шчырая любоў да кавалка роднай зямлі, да свабоды, да справядлівасці і лютая нянавісць да ўсіх тых, хто пазбаўляў народа гэтых прывілей.

Шырокія маляўнічыя прасторы беларускіх палёў, лясоў, лугоў прыцягвалі раз польскіх раз рускіх магнатаў. Загарнуўшы пад сваё ўладарніцтва беларускія землі пры дапамозе «агня і мяча» распачыналі сваё панаванне.

Хопіць сказаць, што ад XIV — XVIII ст. Беларусь знаходзілася пад феадальна-прыгонніцкім і нацыянальна-рэлігійным прыгнётам літоўска-польскіх феадалаў і каталіцкай рэакцыі. Ад XVIII ст. (пасля поўнага падзелу Польшчы 1795 г.) да Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі ізноў пад сацыяльным і нацыянальным уціскам царскіх сатрапаў.

Усё гэта, зразумела, у значнай ступені тармазіла развіццё беларускай культуры, беларускай мовы, літаратуры. Беларускія школы не развіваліся, бо як адны, так і другія захопнікі, праводзілі палітыку, якая не дапускала да гэтага, якая наадварот — імкнулася абудзіць у народзе пагарду, сорам да сваёй мовы. Здзекі, турмы, смерць — вось лёс тых, хто асмеліўся яўна выступіць супраць варожай сіле.

Вось першыя крыніцы таго, што беларускі народ у пэўнай ступені затраціў сваю нацыянальную спецыфіку, перастаў даражыць сваім, што шмат беларусаў пайшло на пэўныя ўступкі «адарвалася ад народу» — як піша адзін з нашых чытачоў, — каб толькі пазбавіцца праследванняў, насмешак, каб «спакайней пажыць».

Неабходна сказаць і аб тым, што Беласточчына знаходзілася яшчэ і пад санацыйным прыгнётам, калі-то як і раней роблена ўсё, каб загінула ўсё беларускае, каб беларус перастаў думаць. што ён беларус, каб адрокся ад свайго нацыянальнага характару.

У пасляваенных гадах у адносінах улад да беларусаў таксама было шмат недахопаў і несправядлівасцей.

У гэтым усім нам і трэба шукаць прычын, якія-б былі выясненнем сучаснага становішча беларуса. Як-жа часта цяпер можна спаткаць, што беларусы саромяцца, што яны беларусы і не даражаць сваёй мовай.

У перыяд дэмакратызацыі, беларусы павінны ясна зразумець палітыку партыі і ўрада ў адносінах да сябе. Каб пазбегнуць дызгармоніі паміж словамі і чынам неабходна, як партыйным, так і адміністрацыйным уладам, пачаць паслядоўна праводзіць словы ў чын.

Праўда, што і ад БГ-КТ многа залежыць, як палітыка партыі адносна беларусаў будзе ажыццяўляцца.

Я неаднаразова чула ад тав. Казла, сакратара ГП БГ-КТ: «выйдзіце ў народ». Каму-ж гэты загад — хачу запытаць. Ці не найлепш пасаваў-бы ён да Галоўнага Праўлення?

У апошнім часе апрацавана даклад, на шмат старонках, аб 6-тай пяцігодцы ў БССР. Даклад прызначан шырокім масам вясковага насельніцтва.

Усё гэта добра і патрэбна. Не пярэчу. Але па-мойму трэба ўперш выйсці з змястоўным, жывым, цікавым дакладам аб Таварыстве, аб тым, якія ўмовы з'явіліся прычынай яго паўстання, ці была гэткая патрэба, навошта яно паўстала, чым з'яўляецца, каму будзе служыць. Вось такі даклад даў-бы рэзультаты. Праўду кажучы, то нават лепш скончыць з гэтымі сухімі дакладамі, манатонна чытанымі захрыплым голасам дакладчыка. Яны не апраўдываюць сябе. Патрэбна непасрэдняя, жывая, простая гутарка. А гэтага моцна не хапае Галоўнаму Праўленню, якое за моцна збюракратызавалася і думае такім чынам чаго-колек дабіцца.

У асноўным беларусы не ведаюць, як успрымаць факт паўстання Таварыства і наогул нацыянальныя праблемы, якія ў апошнім поўгоддзі выплылі на форум. Ці заняцца гэтымі справамі не абавязак Таварыства?

Вядома, што шмат беларусаў не дацэньваюць значэння роднай мовы, лічаць непатрэбным вывучаць яе. На поўнае ліквідаванне гэтага сумнага беспадстаўнага меркавання павінна накіраваць свае намаганні Таварыства.

Як гэтага дабіцца?

Калі дакажам беларусу, што ён мае ўласную беларускую мову, культуру, пакажам яму ўсё яе харaство, багацце, сілу, гістарычную спадчыну, пераканаем беларуса, што няма патрэбы і неразумна сароміцца сваёй беларускай нацыянальнасці і сваёй мовы; што чалавечая годнасць на гэтае не пазваляе; калі зацікавім беларусаў беларускай мовай, літаратурай, культурай, гісторыяй, калі дакажам пры дапамозе фактаў, што беларус мае чым ганарыцца, што будучы беларусам і гутарачы па-свойму, з'яўляецца такім самым чалавекам, як паляк, рускі ці іншы — тады напэўна беларусы дацэняць значэнне і ролю ў сваім жыцці сваёй і сваіх продкаў мовы і не скажуць, што няма патрэбы вывучаць яе ў школах.

Як я разумею беларускую асвету ў нашых умовах?

Шматлікая маса беларусаў жыве ў межах Народнай Польшчы. Гэтаму ніхто не можа пярэчыць, ані ў сучасным, ані ў будучым, бо гэта з'яўляецца фактам неабвяргальным.

Ці добра, што напрамак у палітыцы да нацыянальных меншасцей змяніўся на карысць гэтых меншасцей? Вельмі добра, бо гэта доказ, што партыя і ўрад імкнуцца рэалізаваць справядлівую, ленінскую лінію ў палітыцы да нацыянальных меншасцей.

У сувязі з гэтым далейшае пытанне. Ці патрэбна, каб нацыянальныя меншасці, пражываючыя ў Польшчы, вывучалі сваю мову, культуру, гісторыю, развівалі асвету? Абавязкова патрэбна! Гэта таксама вяжацца з сапраўднай свабодай і дэмакратызацыяй нашага жыцця.

Практычнай мовай у нас, якой карыстаюцца ўсе ўстановы і прадпрыемствы ёсць мова польская (трудна вымагаць, каб была іншая). Уся тэрміналогія навуковая і тэхнічная на польскай мове. Усе вышэйшыя навучальныя ўстановы навучаюць на польскай мове.

Аб ўсім гэтым ведаючы, бацькі-беларусы часта выказваюць думку, у якой прабіваецца клопат аб будучым сваіх дзяцей. Навучанне дзяцей усіх прадметаў у пачатковай, ці нават сярэдняй школе па-беларуску, ускладняе ў пэўнай ступені справу далейшага здабывання ведаў у вышэйшых школах, якое адбываецца толькі на польскай мове. Ці ў гэтым сцвярджэнні ёсць рацыя? Несумненна так! І з гэтай рацыяй, па-мойму, нам неабходна лічыцца.

Як-жа тады трэба разумець і вырашыць справу беларускай асветы ў Польшчы?

*(Працяг на стар. 4)*

ЗМІТРОК БЯДУЛЯ

### КЛІЧ ВОЛІ

Касец, касец, ідзі на луг!
Вастры касу, кляпі касу.
Абшар вакруг, трава вакруг, —
Выходзь уранне на расу!
Гэй, скінь бяду з сваіх плячэй,
Страсі слязу з сваіх вачэй.
Сярод балот і туманоў
Не косіш болей для паноў.
Гэй, скінь ярмо, адвечны здзек,
Бо ты ўжо вольны чалавек!
Ратай, ратай, ідзі на шнур!
Валы ў саху ты запрагай.
Стаіць спусцелы панскі мур.
Не страшыць ён — смялей ступай!
Для самаго сябе арэш.
Пасееш сам і сам сажнеш.
Не пойдзе хлеб твой гультаям,
Не пойдзе хлеб тваім панам,
Бо досыць ты чужых карміў,
Бо досыць ты чужых паіў.
Выходзь з сярпом сваім, жняя!
Там каласы шумяць, гудзяць.
Гэй, паласа твая, твая —
Пара спяваць і жыта жаць!
Не закрычыш ганебны кат.
Не вышле вон з радзімых хат.
І гаспадар і сірата.
Усе мужыкі, ўся бедната
Ужо не пойдуць ў панскі двор,
Каб працаваць ад зор да зор.
Выходзь, пясняр, выходзь, дудар,
У родны гай, у вольны гай!
Ты з курганоў на ўвесь абшар
Усім людзям спявай, спявай!
Сядзець, чакаць няма калі.
Спявай на звольненай раллі;
Будзі, пясняр, усіх людзей,
Няхай ідуць хутчэй, хутчэй
На светлы шлях, на шчасны шлях,
Пад вольны сцяг, чырвоны сцяг!

 

# НА РАДЗІМЕ ЦЁТКІ

Ведаеш, што — звярнуўся неяк да мяне мой сябра студэнт універсітэта Кастусь Пятакоў — паедзеш да нас. Я ўпэўнены, што не пашкадуеш пасля — ты-ж яшчэ не разу не быў на Гродзеншчыне.

Што тут было рабіць? Я меркаваў у часе свайго водпуску з'ездзіць на Случчыну, дзе нарадзіўся і вырас. А тут новая прапанова. Цяжка было ўтрымацца ад спакусы, ды да таго ж я сапраўды ніколі яшчэ не быў на Гродзеншчыне. Крыху падумаўшы, я даў сваю згоду.

Цягнік хутка імчаў нас на Захад. Прамільгнула ў акне вёска Вязынка і хата, дзе нарадзіўся Янка Купала, потым Маладзечна, Ліда, зірнуў агнямі начны Скідэль і летнім ранкам уперадзе паказаліся вежы касцёлаў і цэркваў Гродна. У Гродна, пасля азнаямлення з горадам мы не сталі чакаць чарговага аўтобуса і на спадарожнай аўтамашыне дабраліся да вёскі Новы Двор, недалёка якога жывуць бацькі майго прыяцеля.

Сустрэлі нас добра, гасцінна, як звычайна сустракаюць бацькі сына і яго таварыша.

Хутка ляцеў час. Днём мы займаліся сякімі - такімі справамі, дапамагалі ў гаспадарцы, а вечарам ішлі гуляць. Мы слухалі цудоўныя спевы дзяўчат — то вясёлыя і імклівыя, то журботныя і кволыя, як песня салаўя. І здавалася, што ў гэтых песнях чуецца і шалясценне калоссяў у полі, і ціхі гоман дубровы, шолах траў у лузе. Потым раптам урываліся вясёлыя, бадзёрыя гукі гармоніка і заліхвацкая «Лявоніха» будзіла наваколле. Тады песня аб дасціпнай і вясёлай кабеціне неслася ўдаль і ўшыр, над лясамі і пералескамі, над ціхімі вёскамі, над гаямі і сенажацямі яе разносіла рэха.

Дзесяткі пар імкліва кружыліся ў танцы. Потым «Лявоніху» змянялі «Крыжачок», «Абэрак», «Кадрыль».

Набліжаўся дзень майго ад'езду. Неяк не хацелася пакідаць гэты край, які я так шчыра палюбіў, дзе набыў новых сяброў і таварышаў. Часам маркотным рабіўся і мой сябра.

— Няўжо табе не спадабалася ў нас? — пытаўся ён у мяне. — Пабудзь яшчэ хаця тыдзень.

— Ды зразумей ты, — казаў я яму, — у мяне-ж дома мноства спраў , якія трэба ўладкаваць.

— Добра, — сказаў аднойчы Кастусь, — але мы павінны пабываць з табой яшчэ ў адным месцы.

Аднак, дзе, ён не сказаў. «Пасля скажу» — быў ягоны адказ. Аднойчы, калі я цвёрда рашыў ехаць на другі дзень, мы вечарам пайшлі туды, дзе чуліся песні. Нечага таіць, што ў гэты вечар мяне апанавала нейкая асаблівая журботнасць і смутак, якія бываюць звычайна перад растаннем на доўгі час. Меладычна і задушэўна лілася песня:

*Ой бярозы ды сосны,*
*Партызанскія сёстры,*
*Ой шумлівы ты лес малады..*

Мы стаялі з дзяўчынай пад шырокім галіністым клёнам, гаварылі. Аб чым? Ды шмат аб чым.

— Значыць вы рашылі ўсё-ж ехаць? — спытала яна. — Шкада. А вы нават не пабылі на магіле Цёткі.

Убачыўшы маё маўклівае запытанне, яна дадала; — Алаізы Пашкевіч. Яна тут пахавана, недалёка адсюль, кілометраў пятнаццаць будзе.

— Праўда!? — усклікнуў я. — Што-ж вы раней не сказалі мне аб гэтым?

Дык вось яно што! Паехаць адсюль не наведаўшы магілу вялікай беларускай патрыёткі, паэткі, чыё імя служыць прыкладам вернасці Бацькаўшчыне! Не, не! Мой намер аб ад'ездзе адразу змяніўся.

Па дарозе дамоў я папракнуў Кастуся. — Ты што раней не мог мне сказаць аб гэтым?

— Гэта яшчэ і цяпер не позна, або нават і заўтра, — хітра ўсміхнуўся мой сябра. — Вось што, дружа, — ён шчыра, па сяброўску абняў мяне, — заўтра мы паедзем туды. Ты шмат чаго цікавага даведаешся. Адна справа чытаць у кнігах, іншая, а гэта лепш за ўсё, — пабачыць уласнымі вачыма, пачуць расказы аб ёй.

На другі дзень мы пачалі збірацца ў дарогу. Я ўзяў з сабой фотаапарат — нязменны спадарожнік усіх маіх вялікіх і малых падарожжаў. Матка сябра, убачыўшы нашы зборы запыталася:

— Куды гэта вы сабраліся хлопцы?

— Пойдзем на магілу Цёткі, — адказаў Кастусь.

— А-а, гэта да Алаізы. Ну што-ж, схадзіце, тут гэта не так і далёка.

Праз дзве-тры гадзіны хадзьбы наперадзе паказалася вялікая вёска Хадзілоні, уся патанаўшая ў садах. За вёскай зноў ва ўсе бакі ад дарогі раскінуліся квітнеючыя палеткі, на якіх працавалі сяляне, лясы і пералескі, — адна дзівосная мясціна змянялася другой. Ішлі мы не спяшаючыся, любуючыся маляўнічымі пейзажамі. Неўзабаве дагнаў нас прахожы. Разгаварыліся з ім. Гэта аказаўся даволі гаворкі, сярэдніх гадоў мужчына — дарожны майстар. Даведаўшыся куды і чаго мы ідзем, ён сказаў: — Гэта недалёка ўжо. Я якраз іду туды — у Стары Двор, вось і пакажу вам магілу паэтэсы.

Наш новы знаёмы хоць і не ведаў Цётку асабіста, але шмат чаго чуў аб ёй, ведаў напамяць многія з яе вершаў. З вялікай увагай і цікавасцю мы слухалі яго. Гэтак непрыкметна дайшлі мы і да вёскі Стары Двор.

— Вось і магіла Цёткі, — дарожны майстар паказаў на пакаты прыдарожны курган, абсаджаны дрэвамі. Мы звярнулі з дарогі і ўзняліся на ўзгорак.

Магіла паэтэсы была абнесена акуратнай драўлянай агарожай. Над ёй шумелі зялёным лісцем ясені, кусты бэзу, стракацелі яркія кветкі. Паабапал магілы нібы маўклівыя вартавыя стаялі дзве туі. Сярод усёй гэтай зеляніны ўзвышаўся помнік — высокі шэры крыж, на мармуровым п'едэстале якога быў высечаны надпіс: «Цётка з Пашкевічаў (Алаіза Кейрыс) 3.VII.1876 — 5.II.1916, а крыху ніжэй словы з верша «На магіле».

*«На магіле ўзыйду дубам,*
*Пачну шаптаць братнім губам*
*Аб іх долі, аб свабодзе,*
*Стану песняй у народзе!».*

Моўчкі мы стаялі над дарагой кожнаму беларусу магілай вялікай патрыёткі. У думках, у ўяўленні паўставалі шматлікія вобразы з яе жыцця, прайшоўшага ў эпоху, калі новыя магутныя песні няўхільна і грозна рухаліся наперад, ломячы і крышачы апоры адвечных, дэспатычных устояў — апоры царызма.

Неўзабаве сюды падыйшлі некалькі жанчын з бліжэйшых хат. Усе яны былі пажылыя і прыветлівыя.

— Што, сынкі, прыйшлі наведаць магілу нашай Алаізы? — спыталася адна з іх, і не чакаючы адказу дадала. — Вось ужо хутка сорак гадоў будзе, як няма яе, памерла небарака. Прыехала калісьці праведаць хворага бацьку, ды і сама захварэла на тыфус. Вось тут і пахавалі яе, нябошчыцу ў роднай зямельцы, як і наказвала яна. А памятаю, добра памятаю, — дадала жанчына, — энергічная, вясёлая была кабета.

— А скажыце, калі ласка, — звярнуўся я да жанчыны, — хто так старанна даглядае магілу, утрымлівае яе ў такім добрым стане?

— Школьнікі, сынок, школьнікі, — адказала адна з іх. — Кожную вясну прыходзяць яны сюды, прыбіраюць, садзяць кветкі. Ды і самі мы таксама беражэм яе.

Доўга гутарылі мы з жанчынамі, слухалі іх расказы аб жыцці пясняркі. Паказалі нам месца, дзе калісьці стаяў дом Цёткі. І радасна рабілася ад таго, што людзі, наш народ не забываюць яе, што да магілы паэтэсы не зараслі сцежкі — сюды ходзяць, каб пакланіцца памяці мужнай патрыёткі. Здзейсніліся мары паэтэсы, спраўдзіліся яе поўныя надзеі і веры словы:

*«Веру, братцы: людзьмі станем,*
*Хутка скончым мы свой сон,*
*На свет божы шырай глянем,*
*Век напіша нам закон.*

Цётка не дажыла да гэтага часу. Аднак землякі яе, скінуўшы царскі прыгнёт, пазбыўшыся панскай няволі, жывуць цяпер новым жыццём у свабоднай Беларускай рэспубліцы, аб якой марыла Цётка ў свой час.

Падзякаваўшы жанчынам за іх увагу да нас і развітаўшыся з імі, кінуўшы апошні развітальны погляд на магілу пясняркі мы накіраваліся ў зваротны шлях.

Зайшло сонца, на зямлю паволі апускаўся вячэрні змрок. З нізін пацягнула халадком і вільгаццю, уздымаўся лёгкі туман. Недзе за лесам, з недалёкай вёскі пачуўся лірычны голас — нехта спяваў песню. На нейкі момант песня была замоўкла, але праз хвіліну ў прасторы ўзвілася другая — моцны хор галасоў натхнёна і задушэўна спяваў:

*«Зорка Венера ўзыйшла над зямлёю,*
*Светлыя згадкі з сабой прывяла...*
*Помніш, калі я спаткаўся з табою,*
*Зорка Венера ўзыйшла...».*

Апошнія словы падхапіў і мой сябра. Спяваў ён добра, з пачуццём і сардэчнасцю. Я міжвольна падняў угару вочы — дзе-ж яна, гэтая зорка Венера? Потым махнуў рукой — хіба знойдзеш яе сярод тысяч іншых зорак. А рэха разносіла песню па наваколлі, яна плыла над засынаючай зямлёй усё далей і шырэй.

АЛЕСЬ ТРАЯНОЎСКІ.



*Магіла Цёткі (Алаізы Пашкевіч) у вёсцы Стары Двор (Васілішкаўскі раён, Гродзенскай вобласці).*
*Фота. А. Траяноўскага*



*Мінск. У парку імя 30-годдзя БССР*
*Фота Траяноўскага.*

## Знойдзен сцяг часці, якая абараняла Брэсцкую крэпасць

БРЭСТ. (БЕЛТА). Нядаўна ў адным з казематаў Брэсцкай крэпасці знойдзен сцяг 393-га асобнага зенітнага артылерыйскага дывізіёна, байцы якога ўдзельнічалі ў гераічнай абароне цытадэлі ў першыя дні Вялікай Айчыннай вайны.

Калі на крэпасць 22 чэрвеня 1941 года абрушылася артылерыйская кананада, камандзір загадаў захоўваць сцяг часці малодшаму сяржанту Радзіёну Ксенафонтавічу Семенюку — цяпер рабочаму Кузнецкага металургічнага камбіната. Зняўшы з дрэўка шоўкавае палотнішча, савецкі воін схаваў яго ў сябе на грудзях.

30 чэрвеня фашысты абрушылі на ўсходні форт бомбы і артылерыйскі ўдар. З кожнай гадзінай ўбывалі рады абаронцаў. Тады малодшы сяржант Р. К. Семенюк вырашыў надзейна схаваць сцяг часці — сімвал воінскага гонару. Ён загарнуў палотнішча сцяга ў чахол і склаў у брэзентавае вядро. У адным з казематаў усходняга форта выкапаў яму, паклаў пакунак, накрыў зверху металічным вядром і засыпаў зямлёй. У гэты дзень гітлераўцам ўдалося ўварвацца ва ўмацаванне, але сцяг часці быў надзейна схаван. Укрыўшыся ў падзямеллях цытадэлі, малодшы сяржант Семенюк з групай савецкіх воінаў працягваў весці бой да 27 ліпеня. Кантужаным ён трапіў у палон. У студзені 1945 года яму ўдалося ўцячы з гітлераўскіх засценкаў.

Мінула многа год. З хваляваннем падыходзіў Р. К. Семенюк да месца, дзе ён схаваў сцяг. Вось ён зноў у яго ў руках. Выразна выведзен напіс на сцягу: «393-ці асобны зенітны артылерыйскі дывізіён».

## Стварэнне камісіі Беларускай ССР па справах Юнеско

Надаючы важнае значэнне ролі Арганізацыі Аб'еднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры (ЮНЕСКО) у справе садзейнічання развіццю паміж дзяржавамі сувязей у галіне культуры, навукі і асветы, урад Беларускай ССР у адпаведнасці з артыкулам VII статута ЮНЕСКО стварыў камісію БССР па справах ЮНЕСКО пад старшынствам міністра культуры БССР Г. Я. Кісялёва.

У камісію ўвайшлі дзеячы культуры і навукі Беларусі. На камісію ўскладзена правядзенне мерапрыемстваў, звязаных з удзелам Беларускай ССР у дзейнасці ЮНЕСКО.

Міністэрства замежных спраў Беларускай ССР паведаміла аб гэтым рашэнні ўрада Беларускай ССР генеральнаму дырэктару ЮНЕСКО.

(БЕЛТА).



 

# Успаміны з кастрычніцкіх дзён

— Я ўдзельнічаў у Кастрычніцкай рэвалюцыі і шмат чаго даводзілася мне бачыць, шмат пераажыць — пачаў расказваць Аляксандр Клусевіч, жыхар хутара Клышаўка, Сакольскі павет. — Толькі бачыце ўжо даволі многа забыўся і мой век робіць сваё, 70 год.

7 лістапад 1917 г. застаўся ў маёй памяці па сённяшні дзень. Знаходзіўся я тады ў горадзе Багульма, ля Самары. Працаваў у дэпо. Камуністы паведамілі нас аб пачатку савецкай улады. Вуліцы горада Багульмы запоўніліся натоўпамі. На будынках дзяржаўных устаноў заззялі чырвоныя сцягі.

Нас ахапіла нейкая невыказная радасць, што нешта з гэтай хвілінай змянілася ў нашым жыцці і ў жыцці ўсяго свету. Я тады яшчэ добра не разумеў усіх гэтых падзей.

На горад Багульм, у якім я ў той час знаходзіўся, наступаў Калчак. Памятаю, тады прыехаў прадстаўнік ЦК партыі, склікаў усіх рабочых і коратка сказаў, што савецкая ўлада ў небяспецы, трэба браць у рукі зброю і абараняць усё здабытае.

Стаў я машыністам бронепоезда. Настала зіма 1918 года. Фронт у той час спыніўся на раце Ік. Так здарылася, што наш бронепоезд трапіў у калчакаўскі палон, трэба было яго адбіць. Са звычайнага паравоза і грузавых вагонаў зрабілі мы часовы бронепоезд і рушылі ў бой. Загінула шмат нашых таварышаў, але бронепоезд адбілі. А пасля па-рознаму бывала, і палон у Калчака, і зноўку вызваленне, баі, кантузіі на фронце, шмат аб чым тут можна ўспамінаць.

Калі разграмілі Калчака трэба было для галадаючай Масквы даставіць збожжа з Сібіры. Пакінуў я і свой бронепоезд, і павёў з Омска ў Маскву састаў збожжа. У дарозе захварэў я на тыф, давялося наведаць шпіталь.

Клусевіч змоўк. Гляджу на яго рэдкія, сівыя валасы, на густую сетку змаршчынак на твары, грубыя, спрацаваныя рукі, якія ў 1917 годзе разбуралі стары лад і адкрывалі шлях новаму.

Так, ён і мільёны яму падобных 39 гадоў таму назад распачалі барацьбу за нашу рэчаіснасць, за новы лад на свеце.

Запісаў —
А. ОМІЛЬЯНОВІЧ

# Вясковы мастак з Семяноўкі

Вялікай таленавітасцю славяцца жыхары Беласточчыны. Дзе-б Вы не пайшлі — у Саколку ці Бельск, у Орлю ці Белавежу — амаль у кожнай вёсцы можна ўбачыць, што ўсё больш развіваецца мастацкая самадзейнасць, і ўсё больш развіваюцца народныя таленты — ткачыхі, вышывальшчыцы, скульптары, музыканты, мастакі. Вечарам часта ў прадпрыемствах і вёсках, у клубах і чытальнях, моладзь і старэйшыя глядзяць п'есы драмгуртКоўцаў, танцы, слухаюць песні хораў і гурткоў мастацкай самадзейнасці.

І мо' нават дзеля таго, мы ўжо ўсё менш глядзім п'есы — «шміры», штораз менш чуем дрэнных песняў.

Апрача гэтага мяне вельмі хвалюе яшчэ адна справа. У прадажы на кірмашах часта сустракаем такія стракатапярэстыя малюнкі, што аж у вачах нешта мігціць. Сібірскія мядзведзі сядзяць ля гор каля італьянскіх таполяў, з боку алень з папугаем, а над гэтым усім віднеюць паднятыя ў паветры два анёлы (з якіх адзін быў з чорнымі, а другі яснымі валасамі) з нейкім страшэнным позіркам. Яны трымаюць доўгую істужку з напісам — «Благаславенне гэтаму сямейству».

Гледзячы на такі малюнак у чыёйсьці хаце адразу хочацца сказаць: «Благаславенне гэтаму сямейству, а.. пагібель гэткім мастакам».

На жаль такія карціны сустрэць яшчэ можна і ў культурных дамах.

Што гэта абазначае? Дзе тут крыніца зла? — думаў я ні адзін раз праходзячы па рынку ў кірмашавыя дні.

*

Калі я даведаўся, што ў Семяноўцы, Гайнаўскі павет, жыве вясковы мастак — адразу там паехаў.

Людзі кажуць, што Янка Мароз ад самага дзяцінства праяўляў выразныя мастацкія здольнасці. Як мог памагаў яму малады настаўнік з Нарэўкі, Стахурскі, які захапляўся гэтым напрамкам мастацтва.

— Маёй любімай тэмай — кажа Янка Мароз — з'яўляецца «Новае і старое». Гэта ўсё я хачу паказаць. Інтарасуе мяне прырода, люблю вельмі маляваць краявіды — нашыя краявіды — дадае, калі ўбачыў што я прыглядваюся такому «безгустоўнаму вобразу» аб якім на пачатку ўспомніў.

«Наш краявід», гэта вобраз, які прадстаўляе раку ў лесе — цёмназялёныя дрэвы выглядаюць «як жывыя», адбіваюцца ў вадзе так, што здаецца яна дрыжыць і плыве.

— А дзеля чаго Вы побач малюеце от такія паскудствы — гавару я паказваючы на другі безгустоўны малюнак.

— Бо «паскудствы» тыя людзі ў мяне заказваюць, а гэтай «рэчкі ў лесе» — ніхто не купіць. — От такі я вам дам прыклад — кажа далей Янка. Глянце на гэты малюнак дзе трох старых гуляюць у карты, а чацвёрты — «кібіцуе». Доўга можна глядзець на яго і ўсё штораз больш захапляцца. Ці-ж не праўда? — Якія жывыя постаці, якая міміка, якая ігра святла, колеру і ценяў. Маляваў яго якісьці незнаёмы мастак, палкоўнік Чырвонай Арміі, які нейкі час жыў у майго знаёмага ў Бельску. Намаляваў яму на памятку, а цяпер ён прынёс мне і кажа: — От яшчэ нязгоршае палатно, толькі што так змарнавана, ну і просіць мяне, каб на ім намаляваць... лебедзяў. Тыя лебедзі я намаляваў яму на сваім палатне, а гэты жывапіс пакінуў сабе. Вы не здзіўляйцеся, што я малюю «па заказу», тут справа ў тым, што іншых рэчаў у мяне ніхто і не купіць...


*У такіх умовах малюе Янка Мароз.*
*Фото Рыбінскі*

*

З другімі думкамі я ішоў з Семяноўкі. Думаў тады, што вясковым мастакам бясспрэчна трэба памагчы. Трэба ім даць напрамак, каб яны ўмелі маляваць. Думаў што найлепш было-б, калі Павятовыя аддзелы культуры сарганізавалі-б хоць калі-некалі сходы мастакоў свайго павета і каб гэтыя сходы праводзіліся прафесарамі Ліцэя мастацкіх вырабаў (Ліцэй пластычных штук). Многа скарысталі-б яны з гэтых кансультацый.

Так — гэта трэба зрабіць. Таксама трэба дапамагчы вясковым мастакам прадаць свае вырабы, каб зрабіць іх незалежнымі ад прыватных «заказаў».

Але тут аказваецца, не толькі трэба навучыць маляваць, трэба каб людзі ўмелі адрозніць сапраўднае мастацтва ад «кіча», ад усякай усячыны, якая на жаль упрыгожвае нашы хаты.

І гэта справа павінна быць пастаяннай тэмай нашых настаўнікаў у школах, у вясковых клубах і чытальнях. Трэба выслаць на вёскі хоць малыя мастацкія выстаўкі (якія маглі-б змясціцца напрыклад у школе ці ў клубе). Гэтым павінны заняцца не толькі Рады нарадовыя, але між іншымі і БГ-КТ.

Трэба людзей навучыць... глядзець.

І. РЫБІНСКІ.

---

Апостраф ('), які ставіцца для аддзялення галоснай літары ад папярэдняй зычнай *(сям'я, з'ява)*, літарай не з'яўляецца.

ГАЛОСНЫЯ ГУКІ І ГАЛОСНЫЯ ЛІТАРЫ.

Галосных гукаў у беларускай мове шэсць, а галосных літар дзесяць. Што-ж гэта такое? У чым тут справа?

Пастараемся гэту справу высветліць. Вось-жа літары: *е, ё, ю, я,* (іх, разам з літарай *і*, часам называюць мяккімі галоснымі), адыгрываюць у нашай мове дваякую ролю.

На пачатку слова, у сярэдзіне і на канцы слова, пасля галосных, пасля мяккага знака і апострафа гэтыя літары абазначаюць два гукі.

*Е* абазначае *йэ: ем — йэм, лье — льйэ, п'е — пйэ; ё* абазначае *йо: ён — йон, маё — майо, абём — абйом; ю* абазначае *йу: юшка — йушка, даю — дайу; я* абазнчае *йа: яма — йама, аб'ява — абйава.*

Пасля зычных яны абазначаюць галосныя *э, о, у, а* і мяккасць папярэдняга зычнага: *лес — льэс, лёд — льод, зязюля — зьазульа.*

ЗВОНКІЯ, ГЛУХІЯ І САНОРНЫЯ ЗЫЧНЫЯ

Зычныя гукі падзяляюцца на звонкія, глухія і санорныя.

*Звонкія зычныя* — гэта тыя гукі, якія ўтвараюцца пры ўдзеле голасу і шуму. Да іх належаць: *б, в, г, д, дж, дз, ж, з, й, ў.*

*Глухія зычныя* ўтвараюцца толькі пры ўдзеле шуму. Да глухіх адносяцца: *к, п, с, т, ф, х, ц, ч, ш.*

Зычныя, якія ўтвараюцца пры найбольшым удзеле голасу, называюцца *санорнымі*. Сюды належаць: *м, н, р, л.* Першыя два з іх называюцца *насавымі*, а астатнія *плаўнымі*.

Амаль усе звонкія зычныя маюць адпаведныя глухія. Мы разгледзім гэта на наступным параўнанні:

Звонкія: *б, г, д, дж, дз, ж, з.*
Глухія: *п, х, т, ч, ц, ш, с.*

Звонкія *в, й, ў,* не маюць адпаведных глухіх. Глухі *ф* не мае адпаведнага звонкага.

Глухі *к* мае адпаведны звонкі толькі ў невялікай колькасці слоў. Гэты гук адпавядае польскаму *g (grobla)*. Ён неўласцівы беларускай мове; усё-ж-такі ён сустракаецца ў некаторых словах: *ганак, гузік, мазгі, розгі, бразгаць, гонты, гуз* і інш.

Зычныя *ж, ш, ч, дж* называюцца *шыпячымі*, а зычныя *з, с, ц, дз — свісцячымі.*

ЦВЁРДЫЯ, МЯККІЯ І ЗАЦВЯРДЗЕЛЫЯ ЗЫЧНЫЯ.

Шмат зычных у беларускай мове бываюць *цвёрдымі* і *мяккімі*. Напрыклад, у словах *стол, вагон, сыны* зычныя *л, н, с* — цвёрдыя, а ў словах *столь, агонь, сіні,* яны мяккія.

Мяккасць зычнага на пісьме абазначаецца мяккім знакам *(соль)* або галоснымі *е, ё, ю, я, і (сена, мёд, дзюба, зямля, ніва).*

Вельмі часта мяккасць зычнага, які стаіць перад іншым мяккім зычным, на пісьме не абазначаецца. Так, пішуць *смелы, сляза, дзверы,* але чытаюць *сьмелы, сьляза, дзьверы.*

Цікавая з'ява адбываецца ў нашай мове пры змякчэнні *д* і *т*. *Д* пры змякчэнні пераходзіць у *дз* (мяккае): *вада — у вадзе, града — на градзе,* а *т* пераходзіць у *ц* (мяккае): *хата — у хаце, свет — на свеце.*

Пераход *д* у *дз* называецца *дзеканнем*, а пераход *т* у *ц* — *цеканнем.*

Гукі *ж, дж, ч, ш, р* і *ц* (калі гэта *ц* не паходзіць са змякчанага *т*) ніколі мяккімі не бываюць. Яны вымаўляюцца цвёрда заўсёды: *жыта, джала, чысты, шост, рэпа, цана.* Дзеля гэтага іх назвалі *зацвярдзелымі.*

СКЛАД І НАЦІСК.

Словы, у якіх больш, чым адзін галосны, падзяляюцца на склады. Колькі ў слове галосных, толькі ў ім складоў.

Словы бываюць *аднаскладовыя (стол), двухскладовыя (кні-га), трохскладовыя (па-пе-ра), чатырохскладовыя (ве-ра-ця-но)* і. г. д.

У слове, у якім два ці больш складоў, адзін са складоў вымаўляецца больш працяжна і гучней чым іншыя. Такое вымаўленне называецца *націскам*. Склад, які вымаўляецца з націскам, называецца *націскным.*

Калі трэба, націск на пісьме абазначаюць вось такім знакам ', які ставіцца над галоснай літарай у націскным складзе:

**сяло́, кні́га.**

Над літарай *ё*, якая стаіць амаль выключна пад націскам, знак націску не ставіцца: *вёска, жыццё.*

З перамяшчэннем націску ў слове часта мяняецца яго значэнне. Вось параўнайце значэнні гэтых слоў:

**кара́ — ка́ра, пара́ — па́ра, вада́ — ва́да,**
**замкі́ — за́мкі, мука́ — му́ка, сталы́ - ста́лы**

ПРАКТЫКАВАННІ.

Дарагі чытач! Калі Вы ўважліва прачыталі гэту гутарку, то Вам няцяжка будзе зрабіць ніжэй змешчаныя практыкаванні.

1. Перапішыце наступныя словы, дзелячы іх на склады, напрыклад: *ся-ло.*

Вёска, горад, пасёлак, канава, двухскібовы, плуг, барана, агарод, жняя, трохгадовы.

2 Перапішыце наступныя словы, дзелячы іх спярша на гукі, а потым на літары, напрыклад: *а-г-о-нь, а-г-о-н-ь.*

Дзяржаўны, дзесяць, падземны, дрожджы, збожжа, хадзіць, хаджу, сядзець, сяджу, летась, леташні.

3. На наступных словах пастаўце націск: палена, сядзіба, жалеза, акно, ворыва, верацяно, кара, каса.

*(Працяг будзе).*







*— Не ведаеце, чаму другі дзень магазін зачынены!*
*— Новыя тавары прывезлі...*

*(Вожык)*

# Кастрычніцкае зарыва

Члены былога акцыянернага таварыства Суэцкага канала сядзелі за круглым сталом, курылі гавайскія цыгары ды абмяняліся меркаваннямі.

— Падумайце панове нашы бацькі пабудавалі Суэцкі канал, за грошы, якія ўласнай крывёю і ўласным потам запрацавалі, а цяпер чорнамазыя егіпцяне распараджваюцца ім — сказаў англічанін праціраючы акуляры.

— Гэта не аргумент, мы эксплуатавалі канал 90 гадоў і за атрыманыя грошы маглі-б пабудаваць дзесяць каналаў, але справа ў тым, што нікчэмныя егіпцяне адчуваюць сябе самастойнымі, як пры ўладзе фараона Рамзеса — запярэчыў француз паблісквающы залатымі зубамі.

— Вось сказалі! Фараон зусім ні быў самастойным, ён быў залежны ад жрацоў. Цяпер функцыі жрацоў перайшлі да капіталу, і перад гэтымі капітала-жрацамі егіпцяне павінны схіліць галаву — сказаў амерыканец.

— Жрацы перамаглі фараона пры дапамозе зацьмення сонца, а мы павінны прымусіць егіпцян і падпарадкаваць іх сабе пры дапамозе зацьмення розуму — падказаў англічанін.

— Гэта нялёгка, бо егіпцяне зіраюцца на Кастрычніцкую рэвалюцыю, якая адрадзіла ідэі аб справе нацый на самавызначэнне. Іменна Кастрычніцкая рэвалюцыя, 39 год таму назад упэўніла народы, што яны могуць паверыць у свае сілы — падкрэсліў француз.

— А чаму, панове, прадстаўнікі Іспаніі, Германіі, Аргентыны не бяруць слова? — спытаў амерыканец.

— Мы як заўсёды чакаем, пакуль вы ўнясеце сваю прапанову, а ў час галасавання падымем рукі — хорам адказалі спытаныя.

— Трэба рашуча дзейнічаць, прапаную паслаць войска ў Егіпет — сказаў француз.

— Дазвольце вам прыпомніць, што Англія і Францыя пасылалі свае войска ў Мурманск і Одэсу. Японія акупіравала Уладывасток, каралеўскі флот падыходзіў да Кранштата, а ўсё дзеля таго, каб знішчыць Кастрычніцкую рэвалюцыю і ў істоце нічога з гэтага не атрымалася, узрасло супраціўленне народа, і рэвалюцыя перамагла — прыпомніў амерыканец.

— Што-ж нам выпадае рабіць? Глядзець на трохзвёздны флаг над Суэцкім каналам? — спытаў англічанін і павярнуўся ў акно, з якога пачуўся шматгалосны шум.

— Што вы там бачыце? — спыталі прысутныя.

— Паход бастуючых дакераў. Можаце панове ўпэўніцца, зарыва Кастрычніцкай рэвалюцыі ва ўсіх канцах свету — адказаў англічанін, кідаючы ў папельніцу нелякураную цыгару.

*Дзядзька Лявонь*

### Рагуліна прамова да свайго гаспадара

Я, сялянская карова,
Прашу слова. Дайце слова!
Ну, за што цярплю я здзек
Праз увесь каровін век?

У хляве — гуляй у жмуркі,
Толькі свецяць трохі дзюркі,
У ім, папраўдзе вам кажу,
Я ўсю зімачку дрыжу.

Ем-жа я адну салому,
Дык вядома і малому,
Што не дам шмат малака, —
Трэба сена ды мука.

Як саломы я не вьем,
Дык ты перыш мяне кіем
Па спіне ды па баку, —
Дзе-ж таму быць малаку?
Не ўзбівай мне кіем спіну,
А давай лепш канюшыну,
Бі больш рэпай, бураком,
Тагды будзеш з малаком.

К. КРАПІВА.

### Смяротная хвароба




*Adenauerus hitlerieusis*

## Прыказкі і прымаўкі

**Ні знаўшы броду ні лезь ў воду.**

**Ні карміўшымі буракамі ні пашлеш за быкамі.**

**Усё бусенькі ды бусенькі, а абое галюсенькі.**

**Што будзе, то будзе, а дзве смерці ні будзе.**




— Хвілінку мілыя мае, я толькі скокну па грошы... Р.

# Ксёндз і п'яніца

— Вы грамадзянін не павінны піць водкі — кажа ксёндз да свайго парафіяніна. — Водка, — гэта ваш вораг.

— Не, паночку, я яе піць не перастану, святое евангеліе навучае, што трэба кахаць сваіх ворагаў.

## Прывыкайце, чорны вочы...

(Беларуская народная песня).




*Прывыкайце, чорны вочы,*
*Адны начаваці:*
*Німа майго міленькага,*
*Не з кім размаўляці.*

*Німа майго міленькага,*
*Німа гаспадара,*
*Каму-бы я пасцелечку*
*Пухаву заслала.*

*Даўно свайго міленькага*
*У паход выпраўляла,*
*З тых пор свае чорны вочы*
*Слязьмі выцірала.*

*Пасляпіла свае вочы*
*Горкімі слязамі,*
*Няма жысці, няма рады,*
*Усё за варагамі.*

*Паны дзяруць, паны скубуць,*
*А багач за імі, —*
*Паследнія манатачкі, —*
*Мы паізнасілі.*

*Выхадзіла на дарогу,*
*Выхадзіла ў поле,*
*Нідзе следу не відала*
*Там свайго мілога.*

*— Навярніся, мой міленькі,*
*Да з таварышамі,*
*Калатніце міраедаў,*
*Што-б яны не ўсталі.*

## ЛАГАГРЫФ

Склаў: ЮМо




У вышэй прыкладзену фігуру па вертыкалі трэба ўпісаць 14 слоў, значэнне якіх растлумачваецца ніжэй.

Значэнне слоў: 1. Абаронца справядлівасці. 2. Галіна літаратуры. 3 Вялікае зборышча вады. 4. Прадстаўнік у сейме. 5 Там здабываем веды. 6. Не ашуканства. 7. Постаць з «Нівы» 8 Немалады. 9. 20. студзеня 1957 г. 10. Жыве ў Белавежскай пушчы. 11 Недарэчнасць. 12. Стан надвор'я 13 Частка цела 14. Працуе на раллі.

Чытаючы па чарзе літары ў абазначаным гарызантальным радку, атрымаецца актуальная развязка.

Сярод чытачоў, якія да 10.XI г. г. прышлюць у рэдакцыю правільныя развязкі будзе разыграна ў латарэю 10 кніжных узнагарод.

# АГАФОН АБРОТКА АРГАНІЗУЕ



*Стаяць дзеці ля ваконца*
*Ужо зараз зайдзе сонца.*
*Прыдзе вечар, доўгі вечар*
*Агафончык раіць дзецям:*

*— Слухай, Толік, і ты Надзька,*
*Ідзеце, клічце цётак, дзядзькаў*
*І разбегліся рэбяты*
*Зваць людзей у чытальню-хату.*

*Сам прыбег дамоў. З парывам*
*Узяў кніжку, злапаў «Ніву»:*
*Доўга дома не марудзіў,*
*Бо яго-ж чакаюць людзі.*

*Моладзь уся, дзядзькі і цёткі*
*Селі ўвакол Аброткі.*
*Ціха шэпчуцца сяляне:*
*— ДОБРА ДРУЖНАЕ ЧЫТАННЕ!*

Галоўны рэдактар ГЕОРГІ ВАЛКАВЫЦКІ

Орган Беларускага грамадска - культурнага таварыства ў Польшчы Адрас рэдакцыі гор Беласток, вул Маніфесту Ліпцовага 25, тэл 25-89 Умовы падпіскі на 6 месяцаў — 15 зл 60 гр., на 3 месяцы — 7 зл 80 гр Падпіску прымаюць усе паштовыя ўстановы, пісьманосцы Konto NBP I Oddz. Miejski Nr 102-7-161 w Białymstoku. Prenumeratę za zleceniem wysyłki zagranicę przyjmuje PKWZ „Ruch" Warszawa, Aleje Jerozolimskie 119, tel 8-05-05, konto PKO 1-6-100024 Warszawa. Cena prenumeraty zagranicę: kwartalnie 10.15, półrocznie 20.30, rocznie 40.60. Паліграфічнае прадпрыемства ў Беластоку Т-7-422